


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 9(19) • 17—23 КРАСАВІКА 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## ЦЯРПЕННЮ БЕЛАРУСАЎ НАСТАЎ КАНЕЦ



«А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромістай такой грамадзе?
— Беларусы...»

Так і ўспамінаюцца купалаўскія радкі, калі глядзіш на гэты здымак, зроблены на мінскай плошчы імя У. І. Леніна ў час мітынгу рабочых. Вядомы верш набыў нечаканую актуальнасць. Колькі ж гадоў працягвалася яно, маўчанне народа? І вось нарэшце...

На другі ж дзень пасля павышэння цэн выйшлі на вуліцу рабочыя электратэхнічнага завода імя В. Казлова. А ўслед за тым спыніліся трактарны, аўтамабільны, аўтаматычных ліній і іншыя. Забастоўшчыкі патрабавалі павышэння аплаты працы, адмены несправядлівых падаткаў, роспуску Вярхоўнага Савета рэспублікі... Абнадзеены ўрадам, аргкамітэт прыпыніў забастоўку на тыдзень.

10 красавіка на плошчы зноў загудзеў мітынг: «Далоў рабства!», «Прэзідэнт і Вярхоўны Савет — у адстаўку!..» Забастоўшчыкам працягнулі руку падтрымкі рабочыя калектывы Салігорска, Оршы, іншых гарадоў. Урад рэспублікі пагадзіўся: сапраўды, нас падманулі, абяцалі павысіць цэны ў паўтара раза, павысілі ў два-тры. Значыць, ёсць аснова да пагаднення. Яно павінна быць выпрацавана за «круглым сталом», размова за якім пачалася нядаўна. А калі згоды не будзе, 23—26 красавіка, у чарнобыльскую гадавіну, адбудзецца ўсебеларуская стачка. Рабочыя папярэджваюць: цярпенню беларусаў настаў канец.

Фота Уладзіміра САПОНАВА.

## НАРАДА Ў МІНІСТРА

4 красавіка 1991 года адбылася нарада супрацоўнікаў Міністэрства народнай адукацыі БССР з бацькоўскім камітэтам г. Мінска, прадстаўнікамі гарсавета і гарадскога ўпраўлення народнай адукацыі. На ёй абмеркаваны пытанні беларусізацыі ў навучальных установах рэспублікі.

Адкрываючы нараду, міністр народнай адукацыі БССР Дзямчук М. І. адзначыў, што за апошнія тры гады ў адукацыйнай палітыцы рэспублікі адбыліся карэнныя змены: распрацаваны праграмы беларусізацыі для школ, сярэднеспецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў; прыняты Закон аб адукацыі, які разлічаны на бесперапыннае навучанне таленавітай моладзі ў школах і ВНУ; адчынена больш як 30 ліцэяў і гімназій.

Многія з прысутных падверглі работу Міністэрства народнай адукацыі вострай крытыцы. Народны дэпутат БССР Новік У. У., напрыклад, рэзка выказаўся аб метадах навучання ў ліцэі пры БДУ, дзе не звяртаецца ўвага на выхаванне нацыянальна свядомай моладзі. Старшыня гарадскога бацькоўскага камітэта Шамак А. А. запатрабаваў неадкладна зрабіць усе ліцэі і гімназіі ў рэспубліцы нацыянальнымі, павысіць прэстыж беларускамоўных навучальных устаноў. Членамі бацькоўскага камітэта ўнесены таксама прапановы па ажыццяўленню Закона аб мовах у рэспубліцы.

Супрацоўнікі Міністэрства народнай адукацыі БССР Бутрым Г. А., Саўчук Т. М., Івашчанка З. С., Плескацэвіч М. М. адказалі на пытанні.

*Наталля АРСЕНЬЕВА*

* * *

У гушчарах, затканых імглою,
Шэрым змрокам на зорку-зару
Ахвяруем Табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцах жалю ці страху,
Мы адвагай юнацкай гарым.
Не чужыя варожыя сілы,
Толькі Ты нас вядзеш да зары.

Хмарай дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай, быллём,
Беларусь, Беларусь залатая,
За цябе, за цябе мы ідзём.

## У НУМАРЫ:

*Лонданскі царкоўна-грамадскі часопіс «Голас часу» пра уніяцтва на Беларусі*

*Крыжы на карце* стар. 2

*Доктару Вацлаву ЖЫДЛІЦКАМУ з Прагі — 60 гадоў* стар. 3

*Беларуская мова ў Смаленску* стар. 4



Матэрыял «Абуджэнне» чытайце на 2 стар.

# УСЁ ПАЧАЛОСЯ СА СЛОВА «СЯБАР»

***Нашаму сябру з Прагі доктару Вацлаву Жыдліцкаму — 60. Прапануем некалькі інтэрв'ю, якія правёў з ім у розныя часы паэт Сяргей Панізнік.***

**— Вацлаў Яраслававіч! Як вы асабіста — па сваёй асноўнай спецыяльнасці ўкраініст — зацікавіліся беларускай тэматыкай?**



— У свой час я прачытаў верш Максіма Рыльскага «На братняй зямлі». Пад загалоўкам стаялі словы: «Прысвячаецца беларускім сябрам». Слова «сябар» мне вельмі спадабалася. Падумалася, калі такое слова прыгожае, то павінна быць прыгожай і мова, маці гэтага слова. Вось такім быў першы «штуршок» да вывучэння мовы і да даследаванняў літаратуры беларусаў...

## МАКСІМ ТАНК — ВАЦЛАВУ ЖЫДЛІЦКАМУ

*Мінск. 12.V.1973 г.*

*Шчыра і горача дзякую Вам за клопат аб перакладах твораў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і маіх, на братнюю чэшскую мову. Прызнацца, ды не верыцца, што некалі і мае вершы змогуць пагасціць у маіх сяброў, як некалі гасціў іх аўтар.*

*Шкада толькі, што ў Празе, акрамя Вас, няма знаўцаў беларускай мовы, якія маглі б дапамагчы ў Вашай святой справе — умацаванню нашых літаратурных сувязяў. Праўда, можна карыстацца і з рускіх пракладаў, толькі я баюся, каб не атрымалася як з Пушкінскай «Палтавай», якую з нямецкага перакладу зноў пераклалі на рускую мову, аб чым калісьці пісаў К. Чукоўскі. Вось гэты опус:*

***Был Кочубей богат и горд,***
***Его поля обширны были.***
***И очень много конских морд,***
***шелков, сатина первый сорт***
***Его потребностям служили...***

*Мне ўжо і ўначы сняцца гэтыя конскія морды, якія часта ржуць з перакладаў нашых вершаў...*

*Моцна абдымаю.*



**— Сталася так, што філолаг, чэшскі беларусіст, які займаўся толькі даследаваннямі нашай мовы і літаратуры, стаў адным з актыўнейшых перакладчыкаў беларускай кнігі за мяжой...**

— Я не раздзяляю даследчыцкай працы і перакладчыцкай. Ды і традыцыя такая склалася ў Чэхіі, калі выкладчыкі самі перакладаюць з іншамоўных літаратур. За восем апошніх гадоў дайшлі да чэшскага чытача кнігі Шамякіна, Адамовіча. Толькі што перакладзена кніга народнай памяці «Я з вогненнай вёскі...» І амаль да кожнай са сгаданых кніг я напісаў прадмову ці пасляслоўе, літаратурна-крытычны артыкул ці каментарый. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб беларуская літаратура палюбілася замежнаму чытачу, была прынята душой і сэрцам.

**— Дзякуючы вам быў нейтралізаваны пэўны недавер да мастацкіх вартасцей нашай літаратуры. Пераклад той або іншай кнігі, зроблены вамі, гэта не толькі госць у доме чэшскага чытача. Кніга становіцца паслом нашай літаратуры, эталонам беларускай культуры. Праз кнігу глядзяць на нас, на нашу радзіму. Тут вельмі важна, якога пасрэдніка займела наша літаратура, каб працягваць слаўныя традыцыі духоўнай супольнасці славянскіх народаў, закладзеныя Францішкам Скарынам...**

— Мацнее талент вашых вядучых пісьменнікаў, з'яўляюцца новыя імёны. Высокі ўзровень літаратуры, спрыяльныя для творчасці абставіны — усё гэта, я веру, народзіць новыя творы, якія будуць цікавымі і сусветнаму чытачу. Значыць, трэба будзе перакладаць, каб дапамагчы спазнаць радасць да таленавітага твора і людзям, якія жывуць далёка за межамі Беларусі, каб спаталіць цікаўнасць да духоўнага свету нашага народа.

**— Вось ужо 30 гадоў вы, Вацлаў Яраслававіч, займаецеся беларусістыкай. 15 гадоў мінула з выхаду першай перакладной кнігі...**

— Калі пачаць падлікі, пераклаў каля 30 твораў 14 аўтараў. Але ж літаратура не спыняецца, як і хада гадоў. Вось і зноў некага хочацца прадставіць чытачу. Думаю перакласці прозу Адамчыка, Жука... Хачу, урэшце, закончыць кнігу, дзе будзе выкладзена гісторыя беларускай літаратуры праз асаблівасці яе стыляў...

**— Што, на ваш погляд, збліжае нашы літаратуры?**

— Для нашых літаратур была заўсёды характэрная трывалая ўвага да ўсяго каштоўнага ў свеце. Нашы «малыя народы» намнога ўважней прыслухоўваліся да ўсяго, што прыходзіла са свету, чым большасць так званых вялікіх народаў, якія звыкла больш разлічваюць на ўласную скарбніцу, на сваю культурную самадастатковасць.

Абапіраючыся на фальклор і выкарыстоўваючы дасягненні сусветнай літаратуры, пісьменнасць нашых народаў хутка дасягнула высокага ўзроўню. Пры тым, аднак, нашы літаратуры ніколі не карысталіся сусветнай славай, не заваёўвалі пераможна нават еўрапейскага чытача — хоць многімі сваімі якасцямі, уласцівасцямі, безумоўна, стаялі і стаяць на сусветным узроўні. Асабліва паэзія, але пра гэта вядома адносна нямногім чытачам, перш за ўсё толькі спецыялістам, літаратуразнаўцам, славістам.

**— Якой бачыцца вам беларуская літаратура сёння, з вышыні трыццацігадовага перыяду перакладчыцкай працы?**

— Ад беларускай літаратуры час чакаў не толькі яе ўласных, спецыфічна мастацкіх уласцівасцей, але і непасрэднай працы ў палітычным і ідэалагічным фарміраванні нацыі, ад літаратуры патрабаваўся прамы ўдзел у актывізацыі грамадскага жыцця, у развіцці і абароне мовы, пашырэнні асветы, устанаўленні культурных сувязей з іншымі народамі і г. д. І што хацелася б асабліва падкрэсліць — гэта небывалае павышэнне мастацкага ўзроўню беларускай літаратуры на сучасным этапе, што адбываецца не толькі традыцыйна ў паэзіі, але і ў прозе. Проза ніколі яшчэ не стаяла так высока, і невыпадкова яна прабівае сабе чым далей, тым больш шырокі шлях у свет.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**
**Фота аўтара.**

*Але!* *Але!*

# АДНЫ ЗА МЯЖОЙ ПРОСЯЦЬ, ДРУГІЯ.... КУПЛЯЮЦЬ

Лічыцца, што дзякуючы галоснасці і прэсе беларусы цяпер ведаюць практычна ўсіх сваіх энтузіястаў, якія клапоцяцца пра адраджэнне затурканай бальшавізмам нацыянальнай культуры. Аказваецца — не. І якія імёны часам незаслужана падоўгу застаюцца ў цені! Хто, да прыкладу, нядаўна чуў пра А. Камая? Не, не пра Аляксея Сцяпанавіча — другога сакратара ЦК КПБ. Гэтага, дзякаваць кампартыйным сродкам масавай інфармацыі і Белта, начыталіся. Ды і наслухаліся, пакуль наш рэспубліканскі парламент не адмяніў прамую трансляцыю сваіх пасяджэнняў. Многім памятаецца, як народны абраннік Аляксей Камай з трыбуны Вярхоўнага Савета БССР драконіў «апазіцыянераў БНФ», якія прагнуць капіталізму і грэбуюць сацыялістычным выбарам. Ці як рашуча пратэставаў, калі група дэпутатаў — членаў Камісіі па прывілеях — абвінаваціла Аляксея Сцяпанавіча ў атрыманні для дачкі неблагой кватэры ў цэнтры Мінска. Але ж не, размова пра ягонага сына Аляксандра Аляксеевіча, таго, што з кааператыўнай фірмы пад назвай «Бэлэкс», генеральнага яе дырэктара. Фірма ягоная ў сваім статуце абвяшчала не абы-якую малазначную дзейнасць па вытворчасці, скажам, біжутэрыі, а «практычны ўдзел у рэалізацыі дзяржаўных праграм», першым чынам, вядома ж,— змаганне з чарнобыльскай навалай. Ну, а другім пунктам інтарэсаў кааператыўных рупліўцаў на чале з А. Камаем значыцца... «адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры»! Той, хто прачытаў у «Народнай газеце» (30.3.91) артыкул «Кто под зонтом?», ведае ўсё падрабязна. Мы ж спынімся толькі на надзвычайнай прыхільнасці А. Камая да беларускай культуры. Якога, аказваецца, мецэната мелі і не заўважалі! Не проста спрытнага, «крутога», як цяпер кажуць, дзялка, а сапраўды Усемагутнага чараўніка. Перад ім лёгка адчыняліся і сталёвыя дзверцы банкаўскіх сейфаў, і пагранічныя брамы суровай таможні. А гэта: ну хто яшчэ ў наш час змог бы знайсці ў Мінску дзяржаўнае прадпрыемства, кіраўніцтва якога чамусьці прадае нашаму герою валюту? І па якому курсу! За 9 мільёнаў 600 тысяч савецкіх рублёў — 600 тысяч валюты. Па 13 «нашых» за адзін інвалютны, які каштуе, кажуць знаўцы, значна даражэй за долар. Гэта ў той час, калі Дзяржбанк СССР абвясціў курс у 27,6 рубля за долар ЗША.

Для чаго ўсё гэта? Аказваецца, заўважыў мецэнат беларускай культуры А. Камай, што ў рэспубліцы не задавальняецца попыт на імпартную відэатэхніку. Не хапае (востра!), праўда, яшчэ таго-сяго. Лекаў для хворых, у тым ліку пацярпелых ад Чарнобыля. Нашы афіцыйныя і неафіцыйныя пасланцы за мяжой плачуцца і працягваюць руку ў Еўропе і Амерыцы — падайце, буржуі, на беднасць, у сацыялістычных беларусаў няма валюты. З трыбуны Арганізацыі Аб'яднаных Нацый сам міністр замежных спраў просіць — дапамажыце, народы суверэнныя, бо сканаем ад радыяцыі. І добрыя людзі ва ўсім белым свеце сапраўды адгукаюцца. Вось і эмігранты нашы беларускія, якіх зусім нядаўна кампартыйны друк гэтак палівоў брудам — ды і цяпер не сунімаецца. Адрываюць ад свайго «буржуйскага» заробку хто марку, хто фунт стэрлінгаў, хто долар,— каб дапамагчы савецкім беларусам. Той жа Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі ў Лондане, гадавая справаздача якога днямі трапіла да нас у рэдакцыю. Створаны на грамадскіх пачатках, Камітэт гэты, які ўзначальвае вядомы айцец Аляксандр Надсон (вось ужо каму ад нашых «чыстых» кампартыйных ідэолагаў дастаецца за грахі юнацтва!), змог за кароткі час згуртаваць для дапамогі чарнобыльцам сотні нашых суайчыннікаў за мяжой, на іх дабрачынныя складкі закупіць і даставіць у Беларусь (трыма транспартамі!) лекі супраць лейкозных захворванняў, аднаразовыя шпрыцы (25 тысяч штук), сістэмы для пералівання крыві (3500 адзінак), палепшаныя катэтары, вітаміны, рыбін тлушч і гэтак далей. І не толькі нашы суайчыннікі з эмігрантаў прычыніліся да гэтай дзеі, а, як адзначаецца ў згаданай гадавой справаздачы Камітэту, «сотні і сотні прыяцеляў усіх нацыянальнасцяў — з Вялікай Брытаніі, Францыі, Нямеччыны, Бельгіі, ЗША, Канады, Аўстраліі, Новай Зеландыі і іншых краінаў, якія, прыняўшы да сэрца бяду, што спаткала беларускі народ, адгукнуліся... і ўспамаглі сваімі грашовымі ахвяраваннямі (часта ананімна). Хай Бог аддзячыць ім за іхнюю дабрату».

На жаль, сумна адзначаецца ў справаздачы, «ня ўсё, што хацелася, удалася выканаць». Бо сабраных сродкаў на многія патрэбы не хапае. На пабудову дома для адзінокіх старых з зоны радыяцыі (праект БНФ), на закуп звышгукавога «Сканэра» для дыягнастычнага цэнтра ў Беларусі — каб надзейна лячыць хворых дзетак на радзіме, а не ламаць галаву, за якія сродкі іх вывозіць за мяжу. Сабралі пакуль на «Сканэр» тысячу шэсцьсот дзевятнаццаць фунтаў стэрлінгаў ды сорак два пэнсы, а трэба ж некалькі тысяч. На дом для састарэлых таксама ўжо некалькі соцень фунтаў займелі...

Добра, ну, а на што пусціў гэтак ліха набытыя шэсць соцень тысяч інвалютных не за мяжой, а ў роднай рэспубліцы А. Камай, да якога цудоўным чынам падключыўся «круты» дзялок з сонечнага Сухумі? Пра відэатэхніку імпартную мы ўжо згадвалі. Трэба дадаць яшчэ мільён пачкаў цыгарэт «Мальбара». Такі вось размах.

Праўда, урэшце не ўсё гэтае дабро ўдалося рэалізаваць. На нейкім вітку афёры ўрэшце атрымалася асечка. У выніку «сотні канфіскаваных відэамагнітафонаў,— зазначае «Народная газета»,— былі пушчаны ў продаж» (відаць, на гэты раз на карысць дзяржаве?). І спадзяецца, «што іх набылі чэсныя людзі».

Няхай сабе так усё і адбылося. Але! Толькі вось чаму гэтыя відэамагнітафоны, калі ўжо яны апынуліся ў рэспубліцы, а не на падпольным рынку ў Сухумі, і сапраўды дзяржаўным органам не пусціць па прызначэнню? Гэта значыць на тую патрэбу, якую мелі на ўвазе «крутыя» бізнесмэны, рэгіструючы свой статут,— на адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры? Бо калі б да відэамагнітафона дадаць відэакасеты з адпаведнымі запісамі — цікавымі беларускамоўнымі сюжэтамі (казкамі, гутаркамі, гульнямі, мастацкімі — і мультфільмамі і г. д.), то колькі ж гэта школ (асабліва ў глыбінцы!) змаглі б ці не найлепшым чынам кампенсаваць сённяшні дэфіцыт добротнага беларускамоўнага матэрыялу!

Ды і наогул школьнікі мелі б магчымасць штодзённа чуць (у сукупнасці з відэарадам) роднае слова ў вымаўленні лепшых майстроў мастацтва — артыстаў, дыктараў, дзеячаў нацыянальнай культуры. А так... Вось «Народная газета» спадзяецца, што хоць частка гэтага імпартнага відэабагацця трапіла ўсё ж да «чэсных людзей». Ну, а нашы дзеткі што? Будуць па-ранейшаму з бацькоўскімі рублёўкамі набівацца ў відэасалоны дзялкоў? Дзе іх навучаць не нацыянальным культурным звычаям і годнасці чалавечай, а інтэрсексу, інтэрсадызму, інтэрздзекам над людзьмі, інтэрзабойствам? Каб неўзабаве ўся тая «інтэрнавука» стала нашай нацыянальнай паўсядзённай інтэррэальнасцю?

**Л. МСЦІСЛАЎСКІ.**

# Беларуская мова ў Смаленску

Іду так сабе ў адную з суботаў па Смаленску. Надвор'е цудоўнае, сняжок блішчыць, сонейка, а сам думаю: «Ну чаму яно так усё робіцца?» Прывезлі на работу нам новыя камп'ютэры. Дапаможнік па карыстанні імі надрукаваны ў Ірландыі. Паміж розным іншым прачыталі мы, што славутая фірма паклапацілася і пра беларусаў. Змяніўшы ў сістэме два кароценькія загады, кожны, хто хоча, замест рускіх «щ» і «ъ» атрымлівае адпаведна «і» і «ў». Пішы па-беларуску, як маеш патрэбу.

Але афіцыйнай патрэбы нешта не прадбачыцца. Таму няма нават беларускіх механічных пішучых машынак айчыннай вытворчасці.

Раптам бачу аб'яву: «Имеются книги на белорусском языке». Натуральна, не вытрымаў, зайшоў у будынак былога «Купеческого собрания», у якім зараз месціцца абласная бібліятэка імя Леніна. І не шкадую.

Старэйшы бібліятэкар аддзела абанемента Наталля Міхайлаўна Семянкова расказала, што не так даўно па асабістай ініцыятыве дырэктар бібліятэкі Галіна Іванаўна Артамонава ездзіла ў Віцебскую вобласць і прывезла адтуль беларускія кнігі. Ёсць кнігі, ёсць і попыт на іх. Ёсць попыт — значыць і кантакты паміж чытачамі, што ўсведамляюць сябе беларусамі.

У выніку ў бібліятэцы ўтвараецца беларуская суполка. Падтрымку гэтым людзям аказваюць Марыя Дзям'янаўна Салаўёва і Галіна Сяргееўна Гаравая, таксама супрацоўніцы бібліятэкі.

Дык вось, дапамагаюць беларусам і рускія і нярускія. Было б нядрэнна, каб мы і самі сабе крыху дапамагалі. То не 12 чалавек у Смаленску будзе, а болей. Хто гэтага хоча, няхай піша на адрас: 214000, Смоленск, Большая Советская — 25/19, библиотека им. В. И. Ленина, на любое са згаданых прозвішчаў альбо так. Можна дасылаць таксама кнігі. На маю думку, найбольш патрэбная літаратура дзіцячая і класіка. Патрэбная сувязь з беларускімі бібліятэкамі.

Тым, хто цікавіцца сувязямі з беларускімі зямляцтвамі ў СССР, раю звяртацца па тэлефоне 201066 да спадара Валерыя Мікалаевіча Герасімава, намесніка старшыні Рады згуртавання «Бацькаўшчына». Ён, дарэчы, і пра Смаленск ведае.

М. ЗАЛЕСКІ.

## З лякарні спадара Алеся

### Артрыт

1. Пры артрытах прымаюць ванны (па 20 хвілін) з адвару ваўчкоў трохраздзельных. На вядро вады бяруць 60—100 грамаў ваўчкоў. Кіпяцяць у закрытым посудзе паўгадзіны. Тэмпература ванны павінна быць 38°С.

Вельмі карысна піць настой з ваўчкоў. Бяруць у аднолькавых прапорцыях зелле ваўчкоў, трохколерных браткаў і зелле вадзянкі. Змешваюць. Заліваюць шклянкаю вару 9 грамаў гэтай сумесі. Прымаюць па 2 вялікія лыжкі 3—4 разы на дзень.

Добра дапамагае ад хваробы і націранне балючых месцаў свежым зеллем або настоем з ваўчкоў (4 вялікія лыжкі зелля на 5 шклянак вады). Можна рабіць кампрэсы.

Ваўчкі трохраздзельныя дапамагаюць яшчэ пры падагры, крапіўніцы, рэўматызме, розных грыбковых захворваннях, пры парушэнні абмену рэчываў, ачышчаюць кроў.

2. Узяць 100 грамаў махоркі, 100 грамаў часнаку, 100 грамаў гаспадарчага мыла, 100 грамаў свінога сала (пажадана старога), усё перамяшаць, растаўчы, настаяць 7 дзён і рабіць кампрэсы.

(Рэцэпт даслала ў музей Раіса Адэкава з Хабараўска).

3. Адзін з самых лепшых і няшкодных спосабаў лекавання — піць як мага больш бярозавага соку.

4. Карысна да балючых месцаў прыкладваць медныя пласціны. З металу здымаецца вокіс, пласціны прыкладаюцца на 1—2 дні.

### АРТЭРЫЯКАРДЫЯСКЛЯРОЗ

Самы лепшы і распаўсюджаны сродак ад гэтай хваробы — валяр'янавы настой. Яго лепей нават не піць, а нюхаць на ноч.

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## За валюту!

**Не таюся: да работы**
**У мяне — ані ахвоты,**
**Ані спрыту, ані ўмення,**
**Ані дыхту і натхнення!**
**Ну, а есці, дый са смакам,—**
**Накладайце з добрым гакам!**
**Як жа быць?.. І раптам чую —**
**Муж вучоны нам вяшчуе:**
**Каб купляць хлеб і да хлеба —**
**Здабываць валюту трэба!**

**Брава! Брава!.. За валюту —**
**Сплавім начыста ў мінуту**
**Бор выносісты і гонкі —**
**Да апошняе сасонкі,**
**А дуброву — да дубочка,**
**Гай зялёны — да кляночка,**
**Да апошняе бярозкі,**
**Да апошняй ніцай лозкі,**
**І ўсе траўкі, і ўсе зёлкі,—**
**Ой, валюты будзе колькі!**

**О, валюта!.. За валюту**
**Следам сплаўлю за мінуту —**
**Для чужых заводаў, фабрык —**
**Нашых долаў-нетраў скарбы:**
**Сплаўлю нафту, газ і калій,**
**І руду, і белы камень,**
**Вугаль вывезу таксама,**
**І граніт з яшмой да грама,**
**І ўсе сланцы, і ўсю вапну,—**
**І за ўсё валютай хапну!**

**О, валюта!.. За валюту**
**Сплаўлю тут жа, за мінуту**
**Памяць прадзедаў дазвання,**
**Да апошняга падання,**
**Памяць крэўных, памяць блізкіх,**
**І ўсе ў зорках абеліскі,**
**І ўсе помнікі і пліты,**
**І ўсе цэрквы і капліцы —**
**Здам без болю, без пакуты,**
**Каб загрэбці больш валюты!**

**О, валюта!.. За валюту**
**Сплаўлю з краю за мінуту**
**Нашых звычаяў асколкі,**
**Нашы казкі, песні, скокі,**
**Нашы кнігі і пісьмёны,**
**Нашы ўласныя імёны,**
**Мову — сплаўлю ўсю да слоўца,**
**І сам буду рад бясконца,**
**Што магу такой драбніцай**
**Разлічыцца з заграніцай.**

**О, валюта!.. За валюту —**
**Нават жонку здам, Манюту,**
**Цешчу Касю, бабку Стасю,**
**Напаследак — дробных дзетак,**
**Акцябрат і піянераў,**
**Бо прыкінуў і прымераў,**
**Калі здам іх за валюту —**
**Дык харчамі завалюся:**
**І каржамі, і яршамі,**
**Нават клёцкамі з Варшавы!..**

## І смех і грэх

### Што — колькі?

**(ДЗІЦЯЧАЯ БУХГАЛТЭРЫЯ)**

Дзесяцігадовая Лена супастаўляе старыя і новыя цэны:
— Кілбаса любіцельская: 2-90—9-00;
сасіскі малочныя: 2-60—8-00;
сардэлькі: 1-40—6-00;
катлеты хатнія, 10 штук: 60 капеек — 2-10...

Слухай, мама, а ў Арцёма кот ёсць. Яму што цяпер — катлеты купляць за 2-10? Нават чытаць не хочацца.
— А што ж рабіць?
— Ну не выкідваць жа ката!.. А той дзядзечка, што перад Гарбачовым быў, цэны падымаў?

* * *

Таня разважае:
Школьная сукенка 38-га памеру была 12 рублёў, стала 62. Ай-я-яй! Гэта ж больш, чым у пяць разоў, на два рублі!
Маці ўздыхае:
— А дарослым зусім не ўкупіцца ў якую адзежыну.
Таня спачувае:
— А хіба яны вінаватыя, што такія вялікія выраслі?

Запісала Любоў ЛАМЕКА.




ПАВОДЛЕ КАШЧАНКІ

### Не на таго натрапіў

Паважаныя таварышы! Дазвольце паведаміць вам, якая неспадзяванка здарылася са мною на мінулым тыдні. Сяджу я гэта, нічога не робячы, ва ўласным райкамаўскім кабінеце, але выгляд раблю заклапочаны, задуменны: нібы сусветныя праблемы вырашаю. Дык не... Увальваецца нейкі мужык і кажа:

— Ваша раённая зямля вельмі здатная радзіць грэчку. Дайце мне, калі ласка, гектараў 50, а я праз год увесь ваш раён грэцкай кашаю накармлю. Буду аднаасобнікам, ці, як зараз кажуць, фермерам.

Во, нефармал! І да майго раёна дабраўся!

— Не, кажу, братка, не на таго натрапіў: дулю табе, а не зямлю з грэчкай!

А сам і ўспамінаю, як гады два ці то тры таму, калі быў я яшчэ старшынёй калгаса, атрымаў тэлефанаграму. Ці то хто з глузду з'ехаў, ці памылка, а мо жартачкі: «Засеяць усе палеткі бананамі».

Загад абкама — што зробіш... Засадзілі, адрапартавалі, чакаем. Прыйшоў красавік, зазелянелі наўкола палі, мае сыяне кажуць:

— Пустазелле.

Але адрапартавалі: маем добрыя ўзыходы. Потым, вядома, высветлілася: на самай справе пустазелле, але мяне ўжо павысілі, у райкам забралі. За дасягнутыя поспехі па сяўбе.

Зараз думаю: а што калі сёлета ўсе палі ў раёне засадзіць, прыкладам, ананасамі, калі што-нішто прарасце, гэта ж можна напрасткі ў Маскву сягнуць, а то і ў самы Крэмль патрапіць!

А гэты недадомак усё лезе са сваёй грэцкай кашай. Адно слова — нефармал!

Мроі бюракрата занатаваў
І. ДОЎНАР.

## ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія беларусы ўсіх краёў! Без вашых допісаў «Наша слова» не здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Без нашай газеты вы не даведаецеся шмат чаго пра адраджэнне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

**Рэдакцыя «Нашага слова».**

## АБ'ЯВЫ

### Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

**Нагадваем тым, хто не падпісаўся на газету Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што гэта вы можаце зрабіць у арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Падпісацца можна на астатнія месяцы 1991 года. Індэкс выдання 74975. Кошт аднаго нумара па падпісцы — 5 капеек.**

**Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдакцыі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.**

### РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

**Выходзіць з друку «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй В. Ластоўскага. Слоўнік можна будзе набыць у кіёску Таварыства беларускай мовы (Ленінскі пр-кт, 18), «Кнігарні пісьменніка».**

**Папярэдні кошт 5 рублёў. Даведкі па тэлефоне 33-25-11.**

### ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францiшка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР, і за мяжой.**

**Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.**

**Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зьміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефоны рэдакцыі: 37-17-83, 33-25-11.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2438 Індэкс 74975.